РАЗМОВА СА СВЕДКАМ

## Павел ХАРЛАНЧУК:
# «Калі мы спынімся, нас закатаюць у асфальт»

*Пасля акцый пратэсту ў Мінску ў ноч на 11 жніўня знік адзін з лепшых і знакамітых акцёраў Купалаўскага тэатра **Павел Харланчук-Южакоў**. Паводле слоў жонкі, ён з сябрамі ўвечары быў у горадзе, спачатку ў раёне вуліцы Нямігі, пазней недалёка ад станцыі метро «Пушкінская». Знайсці акцёра не ўдавалася больш за суткі. Мы таксама тэлефанавалі яму. Нарэшце Павел адказаў на наш ліст у сацыяльных сетках. І ў нас адбылася вось такая размова.*



– Як і дзе вас затрымалі?

– Гэта была гадзіна ночы 11 жніўня каля метро «Пушкінская». Людзі спакойна ішлі па тратуарах. Некаторыя спрабавалі выйсці з кола, якое арганізавалі вайскоўцы. Недзе за «МакДональдсам» чуліся выбухі. Я ўжо быў насупраць гасцініцы «Арбіта», патэлефанаваў жонцы, каб яна мяне забрала *(Павел Харланчук жыве ў прыгарадзе. – **Е.М.**)*. На маіх вачах БМВ спрабавала прарвацца скрозь строй, і яе расстралялі гумовымі кулямі. Я зрабіў пару здымкаў для сябе, таму што гэта было неверагодна! Паўсюль стаялі аўтазакі – колькі я ішоў ад тэатра, ад цэнтра… Хутка мяне затрымалі. Ліхтар у твар, загад паказаць сумку, тэлефон, апошні здымак. Спыталіся, чаму я п'яны. Я адказаў, што гатовы прайсці агляд. Я быў спакойны, а вайсковец размаўляў на ўзвышаных танах. І мяне «запакавалі» ў аўтазак.

**– Але ж вы ў той вечар спецыяльна выйшлі ў горад на мірны пратэст, так?**

– Так, я быў вечарам у горадзе. І што? Я ўжо вяртаўся дадому, не крычаў, нічога не кідаў, я нават нідзе раней не сутыкнуўся з эпіцэнтрам пратэсту. Мяне ўзялі не з барыкад, а, па сутнасці, проста па дарозе дадому. І дзясяткі іншых, як я потым даведаўся: хто смецце выносіў у сваім двары, хто гуляў з сябрам і званіў. Але «пакавалі» ўсіх проста для прафілактыкі. Я хадзіў да сяброў, але ўвесь цэнтр перакрыты. Інтэрнэту няма, не ведаеш, дзе вуліцы перакрыты, вось і блукаў…

**– Куды вас адвезлі?**

– На Акрэсціна, як я потым зразумеў.

**– Як з вамі абыходзіліся?**

– Ну слухайце, як з усімі: галавой уніз, па баках не аглядацца, бяжаць-стаяць-ляжаць! Нас білі па спінах...

**– І вас таксама білі?!**

– Ну так, а чым я адрозніваюся ад усіх? Па нагах, па срацы, прабачце, па руке... Адзінае, што, можа быць, я трапіў у тую партыю, якую збіралі па дварах і побач, і таму нас білі менш. Таму што іншых, зараз ведаю, прымалі мацней.

І што далей? Стаім на каленях, па загадзе на каленях перасоўваемся убок. Потым нас паставілі ў калодзеж для прагулак прыкладна 50 метраў квадратных, і стаялі мы з трох раніцы да 20.00 наступных сутак. Перыядычна выдавалі ваду – 4 літры на 100 чалавек. Адна змена ахоўнікаў была нармальная, а ў другой – ну не дабіцца. Я не вадахлёб, а іншыя людзі моцна пакутавалі, прасілі… И падчас абеду буханку хлеба на ўсіх. Калі прывезлі новую партыю затрыманых, нас перавялі ў камеру. У першай было 70 чалавек на шэсць ложкаў, у другой – ужо толькі 20.

**– І няўжо вас, знакамітага артыста, ніхто так і не пазнаў?**

– Адзін афіцэр пазнаў, у яго нават былі нейкія захады, каб мне дапамагчы. Калі нас, першую партыю, выпускалі а чацвёртай гадзіне, афіцэр раптам сказаў мне: «Подожді тут». Я застаўся, а ўсіх астатніх хлопцаў павялі на «бяседу». І там, як потым мне расказваў знаёмы, які там апынуўся, іх клалі на зямлю і паласавалі – а каб зразумелі! І вось гэтага я пазбег з-за афіцэра. Ён нават спытаўся ў мяне, ці дабяруся я дамоў самастойна... І сказаў: «Не держи зла».

**– А як вы, дарэчы, дабраліся дадому?**

– Мда... Без пашпарта, тэлефона, без грошавых картак (іх дагэтуль не вярнулі) дайшоў да Пятроўшчыны і напаткаў дзяўчыну, якая адразу спыталася, ці не з Акрэсціна я. Яе таксама ўзялі за тое, што яна прыйшла даведацца аб выніках галасавання на сваім участку. Тут пад'ехала таксі, я папрасіў у кіроўцы яго мабільнік і патэлефанаваў нарэшце жонцы Ганцы.

**– Як вы сябе зараз адчуваеце?**

– Боль у целе праходзіць, а маральна адчуваю сябе ў парадку. Я, канешне, чакаў сутак... Нам у спіну крычалі, пагражалі, што мы будзем сядзець восем гадоў за кратамі.

**– Ад васьмі да пятнаццаці...**

– Да... Але і зараз усе мае дакументы там, у любы момант ў іх могуць знайсці порах… ды што заўгодна. Але ўсё роўна, калі прачыталі, што патрэбны валанцёры, Ганка ўдзень адвезла па дамах чатырох чалавек з Акрэсціна, а я з ёй разам паехаў туды ўноч. Бачыў, як людзі сустракаюць сваіх блізкіх... Хацелі дапамагчы, але ў той час ужо было валанцёраў дастаткова.

**– Вы чулі, вядома, зварот міністра МУС Караева. Як асабіста вы яго ўспрынялі?**

– Слухайце, у мяне, акрамя абурэння, нічога няма. Я бачыў, як абыходзіліся з людзьмі... Я думаю, што быў загад жорстка прэсаваць усіх. Пенсіянера, які выйшаў на сметнік, – яго таксама білі дручкамі! Там былі нават камандзіровачныя, якія прыехалі на завод «Атлант» і пайшлі прагуляцца, называецца. Што гэта? Вядома ж, быў загад напалохаць усіх па поўнай. І не думаю, што пра гэты загад нехта з вышэйшых чыноўнікаў не ведаў. А цяпер, калі яны бачаць, што гэта не спыняе народнага руху, пачаліся «заявы». Я з 2006 года не ўдзельнічаў у мітынгах, у мяне абавязкі перад тэатрам: адна прэм'ера, другая... Гэта наогул не мая натура – лезці на барыкады, паліць штосці ці кідаць. Я магу падняць руку з «вікторыяй», з машыны пакрычаць, я магу толькі мірна выказаць свой пратэст. Але зараз я ведаю толькі адно: калі мы спынімся, нас закатаюць у асфальт. Нам трэба абвясціць, што мы людзі і што з намі так нельга. Зараз з'явілася шмат фотаздымкаў з жудаснымі пабоямі ад АМАПа. Гэта неабвержныя факты злачынства.

**– Дрыжыкі працінаюць ад чорных цел...**

– І калі міністр усвядоміў і папрасіў прабачэння, то хай ідзе ў адстаўку і ў турму. Ніхто з беларусаў не хоча вайны, ніхта не калечыў амапаўцаў – можа, толькі адбіваліся ад іх. За кратамі аказаліся людзі, якіх проста забіралі па дварах. Па адным.

**– А што зараз у нашым любімым Купалаўскім тэатры?**

– Вы ведаеце, артысты выступілі з адкрытым зваротам. Мы прыпынілі паказ спектакляў да вырашэння існуючай сітуацыі і ініцыіруем працэдуру абвяшчэння забастоўкі. Мы доўга размаўлялі наконт таго, іграць ці не іграць спектаклі. І зразумелі, што зараз не бачым у гэтым сэнсу. Па этычна-маральных меркаваннях. Я, напрыклад, не ведаю, як нашы спектаклі могуць зараз падтрымаць людзей, якіх збіваюць, называюць наркаманамі і гэтак далей. Таму я жорстка заявіў сваю пазіцыю. Але паглядзім, якая рэакцыя будзе ў кіраўніцтва і як яшчэ будуць на яго ціснуць. Зразумела, што Міністэрства культуры і іншыя ведамствы будуць ціснуць. Але пасля таго, што я пабачыў, мне ўжо ўсё адно, згублю я працу ці не згублю.

**Алена МАЛОЧКА.**

ДУХОЎНАЕ

## Уладзімір ЛІПСКІ
# «Памілуй і ўзвысь» Малітвы.

*(Працяг. Пачатак у №№ 53-64.)*




**25** **Госпадзь — святло маё і ратунак мой: каго мне баяцца? Госпадзь — цвярдыня жыцця майго: каго мне палохацца?**

*Псалтыр, 26: 1*

І павучае Госпад
свайго паслухмянца.
Бойся раны слоўнай:
нанесеная шабляй —
зажывае,
а нанесеная языком —
вечна ные.
Бойся славы —
яна праходзіць.
Бойся, калі цябе хваляць,
калі табе зайздросцяць,
калі цябе баяцца.
Бойся пыхі:
ад яе распуста,
яна — падводны рыф,
аб які разбіваюцца
рызыканты.
Нічога не бойся,
калі робіш дабро людзям,
калі думаеш, што гаворыш,
калі спачуваеш чужой бядзе,
калі ўмееш каяцца,
калі з усімі цярплівы,
калі не слухаеш ілгуна, плеткара,
калі адказваеш
дабром на зло,
калі жывеш сумленна.
Калі ўсяго гэтага не маеш —
маліся
раніцай і вечарам.

*Амін.*

**26** **І не ўвядзі нас у спакусу, але збаў нас ад злога. Бо Тваё ёсць Царства, і сіла, і слава навекі.**

*Святое Евангелле паводле Мацвея, 6: 13*

Божа!
Чаму на зямлі арудуе д'ябал?
Ён, хітры і нячысты,
ва ўсім пераймае Цябе,
сам жа не можа спасцігнуць
любоў і пакору,
бо не здольны
на гэтую высакароднасць.
Ён падштурхоўвае зямных людзей
на трон Твайго Царства,
і грэшнікі лезуць на яго,
малоцяць адзін аднаму галовы.
Ён ведае сілу малітвы
і таму нападае на вернікаў,
апаганьвае іх мову і душы.
Не ўводзь нас, Госпадзе, у падман,
Пазбаў ад д'ябла,
які спакушае прызнаць Богам тое,
што не ёсць Бог.
Вечны настаўнік!
Сэрца маё змагаецца супраць
погані, пыхі, хамства.
Падмажы мне ў маіх муках.
Засцеражы ад падзення,
здымі грэх непакоры,
разбуры сцяну паміж мной і Табой.
І я даверуся Табе,
бо жадаю духоўнага жыцця,
гатовы да выпрабаванняў і пакут,
бо хачу дзівоснага раю пры жыцці.
Дык спытайма кожны ў сябе:
калі ты не служыш Богу,
то чаму не служыш?
Калі служыш Яму, то як?
Хай гэтая малітва-пакаянне
ўвойдзе ў нашу свядомасць.
Хай з яе пачынаецца
кожны новы дзень,
падараваны Богам.

*Амін.*

КРЫЖАВАНКА

# Ларыса Геніюш – назаўжды з намі



**Па гарызанталі:** 2.Горад на Гродзеншчыне, паблізу якога, у маёнтку Жлобаўцы, 110 гадоў таму, 9 жніўня 1910 года, нарадзілася выдатная беларуская паэтка, празаік Ларыса Геніюш. 7.“У … ўсеагульнай брахні гаварыць праўду – экстрэмізм” (Дж. Оруэл). 9.Масавая народная гульня. 10.Сімвал царскай ці дыктатарскай улады. 14.Тое, што і абраз. 15.Максім … – народны паэт Беларусі, дзякуючы якому ў 1967 годзе ў Беларусі быў надрукаваны зборнік вершаў апальнай на сваёй Радзіме паэткі Л.Геніюш “Невадам з Нёмана”. 16.Нуль пры гульні ў рулетку. 19.Мясны прадукт. 20.Музычны інструмент. 21.“О, …! Тварыла дзівосы – // змагаракаваля са слугі” – з верша Геніюш “Кастусь Каліноўскі”. 24.“Хай зашуміць хоць на магіле // мне бел-чырвона-белы …” – з верша паэткі “Наш сцяг”. 25.Знаходжанне пад выдуманым імем.

**Па вертыкалі:** 1.“Беларусы ідуць, хлеб свой жытні нясуць, // на … палажыўшы ўрачыста” – з верша Геніюш “Беларусы ідуць, хлеб свой жытні нясуць”. 3.Орган размнажэння грыбоў. 4. “…!” – вокліч з пераможнай інтанацыяй. 5.“Белы ўвесь … , беляхціць сенажаць – // то сонейка беліць палотны” – з паэмы Л.Геніюш “Куфар”. 6.“… цярновы васількоў” – дакументальны фільм аб жыцці і творчасці Геніюш, зняты паводле сцэнарыя Р.Барадуліна; у г.п.Зэльва, дзе паэтка жыла апошнія гады, на сродкі грамадскасці ёй усталяваны помнік. 8.Аўтабіяграфічны твор Л.Геніюш, у якім яна распавядае аб пакутах, якія давялося вытрымаць у сталінскіх лагерах ёй і яе мужу Янку. 11.Раўнівы чалавек. 12.“Адна зямелька – там, дзе продкі спяць, // адна …, што нам сэрцы будзіць” – з верша “Адна ёсць толькі ў свеце Беларусь”. 13.“Ты пагладзь мяне, мая …” – з верша “Маці”, які паэтка прысвяціла сваёй маці Аляксандры, выселенай разам з дачкамі ў Казахстан, а яе бацька – селянін Антон – быў расстраляны ў гродзенскай турме як “вораг народа”; уся сям'я Л.Геніюш зведала жахі сталінізму. 17.Дармавая прымусовая праца. 18.“Мова мая, народу … нятленны, // мова мая, ўваскросні і жыві” – з верша “Мова мая”. 21.“Белы …” – зборнік вершаў паэткі, выдадзены ў 1990 годзе. У 2010 годзе да 100-годдзя Л.Геніюш у выдавецтве “Лімарыус” быў выдадзены збор яе твораў у 2 тамах з прадмовай, укладаннем і каментарыем паэта, журналіста, грамадскага дзеяча Міхася Скоблы. 22.“Беларусь, Украіна, Прыбалтыка. // Цвет жаночы – Радзіма і …” – з верша “Замерзлымі пальцамі”, напісаным у зняволенні. 23.Закончаная частка драматычнага твора.

### Адказы на крыжаванку

**Па гарызанталі:** 2.Ваўкавыск. 7.Часы. 9.Карагод. 10.Трон. 14.Ікона. 15.Танк. 16.Зеро. 19.Лівер. 20.Альт. 21.Свабода. 24.Сцяг. 25.Інкогніта. **Па вертыкалі:** 1.Ручнік. 3.Аск. 4.“Ага!”. 5.Сад. 6.Вянок. 8.“Споведзь”. 11.Раўнівец. 12.Пагоня. 13.Матуля. 17.Прыгон. 18.Скарб. 21.Сон. 22.Бог. 23.Акт.

**Лявон ЦЕЛЕШ, г.Дзяржынск.**

ШАШКІ

### Прывітанне з Піцера

Актыўны ўдзельнік нашай шашачнай рубрыкі **Анатоль Панчанка** даслаў на электронны адрас яе вядучага кампазіцыі майстра спорту **Віліміра Дзярабіна** (Санкт-Пецярбург). Знайдзіце выйгрыш за белых самастойна.



№1 *(гл.дыяграму)* **Белыя**: a1, e5, f4, g3, h4, h6 (6).
**Чорныя**: a7, c5, f6, f8, g7 (5).

№2 **Белыя**: b2, a3, b4, h4, a5, d6, f6 (7).
**Чорныя**: d2, d4, h6, g7, b8, d8, h8 (7).

№3 **Белыя**: g1, b2, a3, h4, a5, c5, b6 (7).
**Чорныя**: d2, h2, f4, a7, d8, f8 (6).

№4 **Белыя**: g1, g3, h4, b6, c7 (5).
**Чорныя**: f4, e5, d6, f6, e7, b8 (6).

№5 **Белыя**: a1, e3, g3, c5, b6, d6, c7 (7).
**Чорныя**: b2, a3, c3, h4, a5, h6 (6).

### Практычныя расстаноўкі

Працягваем знаёміць з практычнымі пазіцыямі **Генадзя Барысава** з Віцебска.

№6 **Белыя**: g1, b2, f2, a3, c3, e3, b4, h4, c5, g5 (10).
**Чорныя**: h2, f4, a5, d6, a7, c7, e7, g7, f8 (9).
b6(c5), cd4!!(a1), h8(d2), gf6, e1 x.

№7 **Белыя**: a1, e1, g1, e3, g3, b4, f4, c5, b6 (9).
**Чорныя**: g5, d6, h6, a7, e7, g7, b8, d8 (8).
h4(gf6), d2(bc7), c3, h2(c7), cd4, f4, e5, g3 x.

№8 **Белыя**: c1, g1, b2, d2, e3, g3, d4, f4, c5 (9).
**Чорныя**: a3, a5, d6, f6, a7, e7, g7, b8 (8).
h4, dc3, de5, c:e3, hg5, h6, h6 x.

### Міжнародныя пазіцыі

Раней мы ўжо знаёмілі чытачоў са знаходкамі мінскага майстра гульні ў рускія шашкі і кампазіцыі **Валерыя Свізінскага**. Гэтым разам прапануем яго творы на стаклетачнай дошцы, якія таксама маюць практычную пачатковую расстаноўку. Суаўтар №№9 і 10 – **Віктар Шульга**.



№9 *(гл.дыяграму)* **Белыя**: 16, 29, 30, 33, 34, 39, 40, 41, 42, 49 (10).
**Чорныя**: 6, 9, 13, 19, 20, 22, 25, 31, 38 (9).
36, 18, 23, 3(28), 44, 30, 17, 7 x.

№10 **Белыя**: 24, 25, 27, 29, 31, 34, 35, 38, 42, 44, 48 (11).
**Чорныя**: 7, 9, 10, 12, 15, 17, 18, 22, 23, 26, 37 (11).
32, 38, 40, 42, 33, 34, 2, 20, 5 x.

№11 **Белыя**: 22, 27, 28, 32, 33, 38, 41, 42, 44, 45 (10).
**Чорныя**: 7, 13, 14, 16, 18, 21, 24, 26, 35, 39 (10).
45-40, 23(48**A**), 1, 17, 37, 11, 36 x. A(46), 1, 6, 37 x.

№12 **Белыя**: 20, 31, 32, 37, 38, 39, 42, 44, 45 (9).
**Чорныя**: 7, 12, 13, 18, 21, 22, 23, 28, 29, 35 (10).
31-27, 19(48),28, 1 x.

Аўтар наступных дамачных праблем – мінчанін **Мікалай Ляшкевіч**.

№13 **Белыя**: простыя 18, 19, 20, 21, 23, 28, 29, 30, 32, 38, 40, 41, 44, дамкі 47, 49 (15).
**Чорныя**: простыя 8, 9, 10, 11, 12, 27, 37, дамкі 7, 16, 45, 46, 48 (12).
29, 19-13, 24, 39, 17, 35, 3, 21, 2 x.

№14 **Белыя**: простыя 9, 13, 19, 23, 27, 28, 32, дамкі 1, 3, 30 (10).
**Чорныя**: простыя 4, 7, 12, 17, 24, 36, 37, 38, 39, 40, 41, 43, 44, дамка 5 (14).
21, 34, 2, 3-8, 31, 11, 47 x.

На заканчэнне дамачная праблема расіяніна **Юрыя Голікава**.

№15 **Белыя**: простыя 13, 18, 20, 24, 27, 32, дамка 4 (7).
**Чорныя**: простыя 2, 9, 15, 29, 33, 44, дамкі 7, 16 (8).
8, 49(43**A**), 1(37), 29(42), 23(47), 10, 15, 24 x. **A**(38), 2(36**B**), 24-19, 47 x. **B**(39),24-19, 26 x.

### Супаставім рашэнні

“Народная Воля” ад 16 чэрвеня 2020 года.

**№1** – b8, e5, g5, e3,g3,c3, e7, f8(e5, f4), e1(e3), ab4x.

**№2** – c7, e5(b4), a3:c5, e7, b8, e5x.

**№3** – e7(b8:d6), c3, a7,b8, c5, g3, c1x.

**№4** – de7, g7(d;h8**A**), d8, e7, h4x.**A**(h4:h8), f8(b6), h4, f6 x.

**№5** – fg7, a3,g5,b2, f6(g5),f6, e1 x.

**№12**– 8, 7, 23, 6-1, 5 x.

**№13** – 27, 21, 2, 11, 5 x.

**№14** – 14, 20, 1, 7, 8, 21, 49 x.

Дакладныя адказы даслалі: **Аляксандра Камінская** (Вілейка), **Юрый Голікаў** (Цвер, Расія), **Эдуард Дамброўскі, Віталь Варушыла, Іван Наўроцкі** (Мінск), **Уладзімір Бандарык** (в. Лугавая Слабада Мінскага раёна), **Уладзімір Валчкоў** (Маладзечна), **Леанід Жыхар, Фёдар Карпей** (Мядзел), **Ігар Ананіч, Павел Каролік** (Гродна), **Уладзімір Панько** (Камянец), **Сяргей Бурко** (Орша), **Анатолій Чумакоў** (Светлагорск), **Уладзімір Барысёнак** (Віцебская вобл.).

Дзякуем за лісты і спадзяёмся на вашу далейшую актыўнасць!

Свае лісты дасылайце на адрас: ***220030 Мінск, вул. Энгельса, 34а, “Шашкі”*** – або на электронны адрас рэдакцыі: ***shulga.checkers@gmail.com***.

**Віктар ШУЛЬГА.**

**Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.**
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ



Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №93/106 ад 30.04.2004. Пр-т Незалежнасці, 79/1, 220013, г. Мінск. Падпісана ў друк 17.08.2020 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 22 040 экз. Заказ № 2506.